© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 13 (1715) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК. 26 САКАВІКА 1989 г. ЦАНА 40 зл.



**Ніна Такаюк з Мікуліч заняла на фінальным аглядзе „Беларуская песня '89 I месца ў катэгоры фальклорнай песні. Лаўрэатка ўзнагароды рэдакцыі „Нівы“.**



**Пакуль што непераможная Люба Гаўрылюк з Беластока заваявала I месца ў катэгорыі народнай апрацаванай песні.**



**Эля Рыжык з Бельскага беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча заняла I месца сярод салістаў у катэгорыі сучаснай песні і ва ўзнагароду паедзе на экскурсію ў Савецкі Саюз.**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '89

Пасля заканчэння раённых элімінацый, у Беластоку адбыўся Цэнтральны агляд конкурсу „Беларуская песня '89“. Два дні, 4 і 5 сакавіка, зала Беластоцкай філармоніі была, як штогод, перапоўнена беларускімі народнымі і сучаснымі песнямі. У першы дзень адбываўся цэнтральны агляд, а на другі дзень у двух канцэртах выступілі лаўрэаты конкурсу.

Нягледзячы на даволі высокую цану білетаў (на агляд 4 сакавіка каштавалі яны 700 зл., а на канцэрты лаўрэатаў 5 сакавіка — 1000 зл.), былі яны раскуплены ўмомант. А асабліва маланкава — тыя 600 білетаў на другі дзень. І, думаю, шкадаваць пасля нікому не давялося.

Цэнтральны агляд працягваўся амаль 9 гадзін, да гадзіны 17-ай. Перад слухачамі прайшла цэлая гама артыстаў-аматараў: калектывы, дуэты, салісты. Усяго ў праграме было 42 пазіцыі. І кожны з удзельнікаў выбраў для сябе нешта блізкае ці ў старадаўняй песні, ці заспяваў народную песню пад гармонік, ці прадставіўся ў сучасным рэпертуары.

Найбольш на цэнтральным аглядзе было калектываў, менш было дуэтаў і салістаў. Большасць калектываў прадстаўляла старыя мясцовыя песні, або шырока вядомыя песні ў свойскім гучанні, спяваныя на мясцовым дыялекце. Былі гэта калектывы з Дабрывады, Чаромхі, Арэшкава, Чыжоў, Хільмонаў, Райска, Мельніка, Дашоў, Меляшкоў. Песні спяваліся імі без ніякай апрацоўкі, без акампанементу, спяваліся а капэла.

У катэгорыі народных апрацаваных песень з акампанементам выступілі калектывы з Гарадка, Рыбалаў, 3 калектывы з Беластока (жаночы, мужчынскі і мешаны), калектыў з Орлі, „Незабудкі“ з Курашава, „Тыневічанкі“ з Вялікіх Тыневіч, „Цаглінкі“ са Старога Ляўкова, калектыў з Нараўкі.

Калектывамі, якія прэзентаваліся па-сучаснаму, гэта значыць з сапраўдным музычным афармленнем, з аркестрам нават, былі: „Крынічка“, якая складалася з вучняў Бельскага беларускага ліцэя, капэла Гайнаўскага дома культуры і адтуль жа мешаны актэт, а таксама дзявочы актэт з Гайнаўскага беларускага ліцэя, якім апякуецца настаўніца Марыя Сцепанюк.

Многія калектывы выступілі сёлета ўжо ў новых прыгожых касцюмах, падрыхтаваных у Мінску па спецыяльнаму заказу Беларускага грамадска-культурнага таварыства (калектывы з Беластока, гарадоцкі калектыў, „Каліна“ з Дашоў, Гайнаўская капэла і мешаны актэт, калектыў з Чыжоў, Старога Ляўкова). І гэта якраз тое! Тое, аб чым мы ўжо некалі пісалі: што выгляд самадзейных артыстаў мае таксама немалаважнае значэнне. Калі такі хор, уваходзячы на сцэну, расцвітае шматколерным карагодам, — ён ужо напалову пераможца!

Вельмі шкада, што на цэнтральны агляд не прыехалі сёлета прадстаўнікі Гданьска. Іхні акампаніятар Ірэк Лаўрэшук меў нейкі вельмі важны экзамен ці выступленне. Аднак гледачы з Гданьска былі! Не было таксама Алы Дубец. Яна, на жаль, выехала з Беластока, а вяртанні — яны не такія простыя. Вельмі шкада! Выступленні Алы з яе калектывамі і калектыўчыкамі, а таксама гданьскіх беларусаў — шмат упрыгожвалі беларускія конкурсы ў папярэднія гады.

Сёлета ў журы конкурсу было тры асобы. Быў запрошаны госць з Мінска — спецыяліст-музыказнаўца Станіслаў Дробыш, які з'яўляецца загадчыкам кафедры народных харавых спеваў у Мінскім інстытуце культуры. Быў таксама і вялікі сябра беларускай песні на Беласточчыне, выкладчык сярэдняй музычнай школы ў Беластоку Ежы Сьрудкоўскі (старшыня журы), ну, і ніжэй падпісаная.

Сёлета журы ўлічыла мінулагодніх заўвагі гледачоў і вырашыла больш сканкрэтызаваць вынікі конкурсу, гэта значыць, зрабіць не так, як было ў мінулым годзе, калі ўсе выканаўцы былі падзелены на тры групы (найлепшыя, добрыя і крыху горшыя), а проста найлепшых выканаўцаў размясціць па месцах паводле іх заслуг. У выніку атрымалася наступнае.

**Катэгорыя фальклорнай песні.**

Сярод калектываў **на першым месцы** апынуліся заслужаны **калектыў з Дабрывады,** які ўзнагароды ўжо атрымліваў не раз,

(Працяг на стар. 6)




© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## У Прэзідыуме ГП

На пасяджэнні Прэзідыума ГП БГКТ 24 лютага г.г. галоўным чынам разглядалася справа пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Актуальныя праблемы, звязаныя з гэтым, прадставіў прысутным старшыня камітэта пабудовы Кастусь Майсеня. Вырашана некаторыя бягучыя справы арганізацыйнага характару. З увагі на тое, што адкрыццё першага будынка (А) Музея запланавана на другую палову бягучага года, узнікае праблема абсталявання часовай, няпоўнай экспазіцыі. Адна выставачная зала будзе адведзена экспазіцыі музея рэвалюцыйнага руху, якая, пакуль што, памяшчаецца ў школе № 5 у Гайнаўцы. Справу далейшага збору экспанатаў вырашана абмеркаваць на супольным пасяджэнні Прэзідума ГП БГКТ і Прэзідыума ГР БАС, якое назначана на красавік. Прэзідыум ГП БГКТ лічыць, што пры збіранні экспанатаў якраз студэнты, якія арганізуюць шмат рэйдаў і вандровак па роднай зямлі, могуць прынесці неацэненую дапамогу.

Ажыўленую дыскусію выклікала справа ўласнасці пляцу, на якім будуецца музей. Пакуль што, яна фармальна і юрыдычна не вырашана.

Далей удзельнікі пасяджэння звярнулі ўвагу на недахоп інфармацыі пра пабудову Беларускага музея, асабліва сярод нашых суродзічаў на Захадзе, якія прынеслі і далей прыносяць вялікую фінансавую дапамогу. Вырашана выдаць двухмоўны буклет (на беларускай і англійскай мовах) з мэтаю пазнаёміць нашых замежных ахвяравальнікаў з ходам пабудовы музея і праблемамі, з якімі яна сутыкаецца.

Акрамя справы музея, Прэзідыум разгледзеў інфармацыі пра выкананне фінансавага плана БГКТ за мінулы год ды пра падрыхтоўку да фіналу „Беларускай песні '89“.

З увагі на тое, што сакратар ГП БГКТ Ян Максімюк з 1 сакавіка пераходзіць на працу ў „Ніве“, Прэзідыум уступна абмеркаваў справу персанальнай змены на гэтай пасадзе. (аб)

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '89



Ольга Ахрымюк і Марыя Іванюк з Чыжоў занялі на цэнтральным аглядзе I месца сярод дуэтаў у катэгорыі фальклорнай песні.



Вядомы дуэт з Бельска: Яўгенія Коршак і Канстанцін Сіліванович. I месца ў катэгорыі народнай апрацаванай песні.

(Працяг са стар. 1)

і малады, але добры калектыў з Чаромхі. Другое месца падзялілі між сабой калектывы з Арэшкава і Чыжоў, а на трэцім апынуліся „Падлясянкі“ з Хільмонаў і „Згодныя макі“ з Райска.

Дуэтам былі прызнаны два першыя месцы. З Чыжоў гэта быў дуэт Ольга Ахрымюк-Марыя Іванюк, а з Дашоў — дуэт Ніна Міцэвіч-Валянціна Міцэвіч. Узнагароду „Нівы“ атрымала выканаўца фальклорнай песні, якая апынулася на першым месцы — Ніна Такаюк з Мікуліч.

Катэгорыя народнай апрацаванай песні з акампанементам.

Першае месца падзялілі між сабой стары, заслужаны калектыў з Гарадка, які сёлета святкуе сваё 35-годдзе, і мужчынскі калектыў з Рыбалаў, для якога ОСП прызнала спецыяльную ўзнагароду. На другім месцы апынуліся два калектывы, працуючыя пры ГП БГКТ у Беластоку: жаночы і мешаны; а на трэцім месцы — калектыў з Орлі.

Што датычыць дуэтаў, дык першае месца прызнана дуэту з бельскіх „Васілёчкаў“ Яўгенія Коршак-Канстанцін Сіліванович. Вельмі добра спявалі салісткі і, як заўсёды, непераможнай пакуль што аказалася Люба Гаўрылюк з Беластока, якая заняла першае месца, другое месца прызнана Валянціне Мароз з Бельска.

Катэгорыя сучаснай песні:

На першым месцы апынуўся калектыў дзяўчатак з Бельскага беларускага ліцэя — „Крынічка“, які ўжо шмат год вядзе

# ПАРАЖЭННІ І ПЕРАМОГІ

(Працяг са стар. 5)

следніцы, трохтыднёвай каралеўны Эльжбеты, спачылі ў вавельскім кафедральным саборы і прыгнечаныя гэтым няшчасцем госці паспешліва пакідалі Кракаў, падалася таксама ў Вялікае княства Літоўскае княжая пара Вітаўт з Аннай. Кіраваліся на Луцк і Кіеў у надта ж сумным настроі: хоць каралева Ядвіга і яе двор ужо некалькі год непрыхільным вокам спазіралі на ўзмацненне Вялікага княства Літоўскага і рост аўтарытэту будаўніка гэтай моцы — князя Вітаўта, Кейстутавіч усё ж спадзяваўся, што ўзрадаваны з'яўленнем доўга, бо аж 12 год, чаканага наследніка каралеўскай кароны, Вавель дасць яму значную вайсковую дапамогу, якая можа вырашыць пра разгром Залатой арды, як-ніяк супольнага ворага для ўсяе Еўропы. Але пры такім жудасным павароце спраў, ён, мабыць, і не заікнуўся пра дапамогу сабе, бо з падрабязнасцямі ведаў, у якім незайздросным становішчы апынулася Польскае Каралеўства і асабліва кароль-прымак Якаў-Ягайла-Уладзіслаў. Пакінуўшы княгіню Анну ў магутна ўмацаваным Луцку, паімчаўся Вітаўт на зборны пункт паходу, у Кіеў, і, прыкрываючы свае сумненні і апаскі шчодрымі пачастункамі прыбыўшых рыцараў і вояў ды бадзёрасцю ўласных паводзін, рыхтаваўся да выхаду на татараў.

У тым часе Ягайла на працягу дзевяці дзён у бязмежным суме, са слязьмі ў вачах, удзельнічаў у жалобных набажэнствах над трунамі жонкі і дачкі, а потым сваёй службе загадаў збіраць усе прыналежныя яму каштоўнасці і рэчы, пакаваць ды ладаваць іх на вазы і рыхтавацца да ад'езду ў родную... Вільню. Вядома, усё гэта дзеялася на вачах членаў Кароннай рады і іншых уплывовых польскіх вяльможаў. Адны з іх цешыліся, што Вавель пазбываецца нялюбага ім „перахрышчанага схізматыка“ ды „неабчэсанага ліцвіна“ (па сённяшняму: „хамаватага руска“) і слалі ганцоў да Габсбургаў, а нават да колішняга Ядвігінавага нарачонага Вільгельма, цяпер 29-гадовага князя паўднёва-славянскіх краінаў Карынтыі і Стырыі, каб як мага хутчэй займалі свабодны кракаўскі трон. Іншыя ж усведамлялі, што разам з ад'ездам з Вавеля Альгердавіча, усе унійныя сувязі перарвуцца і Польшча ў магутным Вялікім княстве Літоўскім будзе мець не саюзніка і падпору, а небяспечнага непрыяцеля (яшчэ была жывая памяць пра зніштажальныя нашэсці ўсяго каля дваццаці гадоў таму назад дружынай таго ж Ягайлы на Малапольшчу, амаль пад вароты Кракава!) і таму неўзабаве стане ахвярай варожага ёй акружэння (Нямеччына, крыжацкі Ордэн, Вялікае княства Літоўскае). На іхнія спробы ўгаварыць Ягайлу не пакідаць Кракава, ён, нібыта, адказаў: „Не гадзіцца мне ў чужым каралеўстве пасля зыходу ягонае законнай наследніцы заставацца“.

Відаць, гэтыя ўпрошванні не паходзілі ад большасці членаў Кароннай рады, бо ў Кракаў ужо даляцелі звесткі пра разгром татарамі Вітаўтавай арміі, магчыма яны патаналі ў абразлівых зласлівасцях, калі Ягайла, даручыўшы свайму двару шыкаваць да выезду абоз, сам у акружэнні найбліжэйшых яму асоб як мага хутчэй пакінуў польскую сталіцу і выехаў недзе „на Русь“, як адзначаюць польскія храністы.

У якія мясціны тагачаснай „Русі“. г.зн. Старабеларускай дзяржавы, падаўся Ягайла, сёння немагчыма згадаць. Праўдападобна, падаваўся ён на спат-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Этнаграфічнае Закенца



*І зноў вярнуліся да нас!* *Фота Я. Целушэцкага.*

### ТУТ ІХ РОДНЫЯ МЕСЦЫ

У Кнышынскай пушчы можна сустрэць звыш 130 відаў гняздоўных птушак. Арнітолагі пасвядчаюць пражыванне тут бусла чорнага, асаеда звычайнага, ястраба-перапёлачніка (ён у пушчы мае адну з найважнейшых у нашай краіне гняздоўную апору), падворліка малога, рабчыка, жураўля, чарныша, клінтуха, зімародка, некалькі відаў дзятлаў, арэхаўку, крумкача, цвыркуна рачнога, белабровіка, рэмеза звычайнага, салаўя звычайнага, снегіра (тут ён мае адно з найбагатшых становішчаў у паўночна-ўсходняй Польшчы).

Даследчыкі света птушак Кнышынскай пушчы, д-р Кшыштоф Воўк з Торуня і Яўген Пугацэвіч з Гайнаўкі, згодна сцвярджаюць, што, каб зберагчы ўсе рэдкія віды, трэба перш-наперш захоўваць старыя дрэвы, асаблівы з дупламі і шырокімі кронамі, існуючыя балоты і чысціню водаў. Гэтак мала і адначасова гэтак многа!

**Пётр Байко**




### ГУСЬ АБО КАЧКА ПЕЧАНЫЯ

Асмаліць аскубаную і выпатрашаную гуску ці качку. На дзве гадзіны перад тым як будзем пячы, нацерці яе ў сярэдзіне і зверху соллю, майранам і часнаком.

Гуску або качку можна напоўніць чвэрткамі абабраных яблыкаў. Яблыкі дададуць ім смаку, а апрача таго не дазволяць птушцы занадта высахнуць. Можна яблыкі крыху падсаладзіць.

Уставіўшы гуску ці качку ў гарачую духоўку, трэба часта паліваць яе тлушчам, які выталіваецца. Скурка павінна быць залацістая і хрупкая. Калі б тлушч занадта прыпальваўся, зліць яго, а гуску ці качку спырскаць вадою. Тады тлушч варта дадаць у соус у канцы.

Гатовую гуску ці качку парэзаць спецыяльнымі нажніцамі, палажыць на талерку і паліць соусам. Калі б мы паклі птушку з яблыкамі, трэба аблажыць яе імі.

Падаем печаную гуску ці качку з бульбяным пюрэ або з клёцкамі: бульбянымі „капыткамі", ці клёцкамі з сырой, сцертай бульбы. Салаты: з чырвонай капусты або тушанай белай капусты з яблыкамі.

### ГУСІНАЯ ШЫЙКА

Калі маем намер рабіць асобна гусіную шыйку, дык спачатку трэба абрэзаць шыю са скурай. Зняць скуру, а сярэдзіну палажыць у печаную гуску.

Калі няма ў нас гусінай ці качынай пячонкі, дробна пасячы кавалак цялячай пячонкі, а праз мясарубку прапусціць кавалак (20-25 дэкаў) цяляціны і кавалачак саланіны. У пячонку з мясам дадаць лыжку масла, расцертага з двума жаўткамі, паўбулкі, намочанай у малацэ і выціснутай, адну-дзве пячурыцы (звараныя, пасечаныя) і кавалак саланіны, якую трэба нарэзаць дробнай костачкай. У атрыманую масу дадаць соль, перац і крыху мускатнага арэха (мушкаталовай галкі). Напоўніць скуру фаршам, але каб не было надта поўна, бо лопне ў часе гатавання. Зашыць абодва канцы. Варыць на малым агні ў гароднінным адвары, дадаўшы лаўровы лісток, 2-3 зярняткі перцу і 1-2 зярняткі англійскага зелля. Калі скура будзе амаль мяккая, выняць шыйку і астудзіць, прыцiскаючы дошчачкай і нечым цяжкім.

Шыйку парэзаць на скрылёчкі, падаваць з хрэнным соусам, татарскім, кечупам ці хрэнам з буракамі.

### ТУШАНАЯ КАЧКА

Можна стушыць качку з чырвонай капустай. Качку падзяліць на часткі, нацерці соллю і падсмажыць на тлушчы. Качан чырвонай капусты спаласнуць, зняць з яго пашкоджаныя лісткі і пашаткаваць. Заліць гарачай вадой, адцадзіць і спырснуць лімонным сокам, каб мела прыгожы колер. У шырокай каструльцы растапіць кавалак дробна нарэзанай саланіны, дадаць палавіну пасечанай цыбулі і паўлыжкі мукі. Палажыць на гэта капусту, дадаць паўшклянкі чырвонага сухога віна, па смаку цукар, соль і перац. На капусту класці кавалкі качкі, паліць тлушчам, на якім качка смажылася. Тушыць. Падаваць з бульбай.

**Гаспадыня**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагая Сэрцайка, сорамна мне звяртацца да цябе, бо ўжо мне 35 гадоў споўнілася. Ведаю, што ў гэтым узросце трэба ўжо самой думаць. Аднак жа вось здарылася ў маім жыцці такая справа, што сама яе вырашыць не магу.

Калі мне было 20 гадоў, былі ў мяне два хлопцы. Фактычна спачатку я хадзіла з адным і нават здавалася мне, што я яго вельмі кахаю. Можа, і выйшла б я за яго, за Геніка, замуж, калі б на выпадковай вясковай забаве не пазнаёмілася з другім хлопцам — Сярожам. Засланіў мне ўвесь свет, закахалася ў яго ад першага позірку. Нікога не бачыла, апрача яго. Праз паўгода я выйшла за Сярожу замуж.

Мой першы хлапец, Генік, перажываў страшэнна. Я гэта бачыла, і ў мяне самой сціскалася сэрца ад таго, што я не хаджу з ім і выходжу замуж за іншага. Але Сярожа — гэта была надзвычайная з'ява, і без быцця яго жонкай я сабе жыцця не ўяўляла.

Пасля вяселля мы з Сярожам выехалі ў суседняе мястэчка. Я працавала ў канторы, а ён быў шаферам. Нарадзілася ў нас двое дзетак. Я надалей была найшчаслівейшая з жанчын і пра Геніка нават не ўспаміналa. Проста захліснулася сваім шчасцем.

Каторагась разу мне пазванілі, што Сярожа меў выпадак. Калі я прыбегла ў бальніцу, ён ужо не дыхаў. І так я засталася адна са сваімі сіротамі.

І тады з'явіўся ён: Генік. Быў ён ужо мужчынам, пасталеў, узмужаў. Сказаў, што надалей кахае мяне і ахвотна ажаніўся б са мною. Абяцаў быць добрым бацькам для маіх дзетак. Я, яшчэ не ахлынуўшы ад гора, не ведала, што яму сказаць. Адразу сказала, каб пра такое і не думаў. Ды і як я магла думаць пра іншага мужа, калі майго каханага пахавала некалькі тыдняў таму назад?...

Але праз пару месяцаў, калі я неяк усё гэта агорыла і прыйшла крыху ў сябе, старыя пачуцці да Геніка нахлынулі на мяне з новай сілай. Я ўспомніла ўсё, што было між намі, і падумала: „Які ён усё ж высакародны чалавек!" І цяпер раздумваю: ці не варта даць яму станоўчы адказ, ці не варта, каб ён стаў бацькам маіх дзяцей, бо такога бацьку яны б, бадай, мець хацелі... Прашу цябе, Сэрцайка, парай, што мне рабіць!

**Агата**

Агата! Думаю, што такога і толькі такога бацькі трэба тваім дзецям. Мала ёсць людзей, якія ўмеюць кахаць з такой сілай. А ён жа цябе, гэты твой Генік, кахае па-сапраўднаму, шчыра і аддана, калі столькі год насіў у сабе гэтае каханне! Калі кахае цябе, дык і дзяцей тваіх кахаць будзе. Прыйшоў ён да цябе, калі ты засталася адна ў няшчасці. Не трывожыў, не перашкаджаў тваму сямейнаму жыццю, калі табе было добра. Думаю, што на такога чалавека можна разлічваць у жыцці. Ты яшчэ даволі маладая, табе 35 гадоў, можаш яшчэ мець дзяцей. Ды, зрэшты ж, Генік для цябе — не чужы чалавек. Ты ж яго таксама кахала, і з гэтага кахання не нарадзілася нянавісць, да якой толькі крок, а проста каханне гэтае заглушыла новае, гарачае каханне, якое, як раптоўная хвароба, зняволіла цябе. Тое доўгае, шчырае і працяглае каханне — як хранічная хвароба, можа трываць заўсёды.

Выйдзі за Геніка!

**Сэрцайка**

## ★ ВЕР-НЕ-ВЕР ★

Дарагі Астроне! Даўно мне не снілася такое, каб я так моцна перажыла. Дык усё неяк запамятала. Нібыта я ў хаце сваіх дзеда і бабы. Яны ўжо даўно памерлі, а там жывё мой дзядзька — іхні сын. У іх хата так збудавана, што дзверы з аднаго пакоя ў другі, потым на кухню, з кухні — у пярэднюю, так што можна ганяцца кругом па ўсёй хаце. І вось я так і бегаю, бо ганяе мяне дзед. Ды што дзіўна — ён трымае печ-сцяноўку ў руках і з гэтай печчу мяне так ганяе. Я вельмі баюся, каб хаця не дагнаў мяне. І раптам ён ужо без гэтай печы і мы побач стаім пры акне і глядзім на вуліцу. А там многа хатняй жывёлы. Не магу сказаць, што дакладна: каровы, ці авечкі, неяк усё разам. І дзед мой кажа: я заўтра адну штуку з гэтага стада паганю. Ну, і я прачнулася. Але страх ходзіць за мной і ўдзень. Баюся, каб чаго дрэннага не было. Дзед мне даўно не сніўся, а пры жыцці я вельмі кахала яго.

**Люся**

Люся, на жаль, твой сон да добрых не належыць. Хаця ты і была ў хаце нябожчыкаў і, здавалася б, нічога кепскага не павінна было б здарыцца, аднак жа ня добрае тое, што твой дзед ганяўся за табою па ўсёй хаце, а ты бегала, уцякала ад яго. Гэта абазначала б для цябе нейкую страту, беднасць. Ёсць і яшчэ іншы непакоячы мяне элемент тваёго сну — гэты твой дзед бегаў за табою, трымаючы ў руках печку-сцяноўку. Печка наогул абазначае добраўпарадкаваную гаспадарку, аднак жа ў гэтым кантэксце справа выглядае якраз наадварот. Бадай, у гаспадарцы гэтай нешта нарушыцца. Таксама выглядае і справа той жывёлы, якую ты ўбачыла праз вакно. Наогул усё залежыць ад таго, як гэтая жывёла выглядае. Калі б гэта жывёла была добра адкормленая, прыгожая, то магла б прадвяшчаць нешта добрае. Аднак жа і тут, бачыш, дзед збіраўся адну штуку прадаць, а гэта таксама пацвярджала б тэзіс наконт нейкага ўшчэрбку ў хатняй гаспадарцы.

**Астрон**

МНОГАЕ, БРАТОК, ГУБЛЯЕШ, КАЛІ „НІВУ" НЕ ЧЫТАЕШ!



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## СУСТРЭЧА Ў ЛЯЎКОВЕ

У той дзень, калі „Зорка" трапіла ў Ляўкова, сёмы клас меў сваё свята. Усе былі па-святочнаму апрануты — у белых блузачках і кашулях, а на сцяне — новая сценгазетка, прысвечаная віноўніцы ўрачыстасці — класнай выхавацельцы, настаўніцы матэматыкі і хіміі. Гэта яе дзень нараджэння дагаварыўся супольна адзначыць клас. Былі цёплыя словы, прамовы, кветкі.

А на сустрэчу з „Зоркай" у школьным не надта прасторным калідоры сабраліся вучні ўсёй школы. Дзеці распытвалі пра „Зорку", хто і як яе робіць, як выглядае праца журналіста, і ці многа прыгод давялося мець мне як рэдактару „Зоркі" ў сваім жыцці.

А потым расказвалі і аб сабе. Ёсць чым пахваліцца вучням Ляўкоўскай школы. Вось хоць бы поспехамі ў вучобе. У мінулым годзе школа заняла першае месца па суме выйграных прадметных конкурсаў у гміне. Найлепшымі аказаліся вучні па фізіцы, хіміі, матэматыцы. А Цэзары Стасевіч, вучань гэтай школы, заняў трэцяе месца ў раёне і ўдзельнічаў у ваяводскім конкурсе. У ваяводскім прадметным конкурсе па фізіцы ўдзельнічаў і Славік Карэтка. Сёлета ўжо школа выйграла конкурсы па біялогіі, хіміі

(Працяг на стар. 10)



Група дзяўчатак з Ляўкоўскай школы, якія выйшлі на ганак развітацца з „Зоркай".

## ДВОЙКА

Марынка была добрай вучаніцай. Яна заўсёды прыходзіла ў школу падрыхтаваная. На сёння трэба было напісаць апавяданне на тэму „Чаму я люблю сваю вёску".

Марынка напісала ўсё, як трэба. Але яе сяброўка па парце Крыся не напісала нічога.

— Калі настаўніца мяне спытае, — сказала Крыся Марынцы, — дык дасі мне свой сшытак, і я прачытаю. Цябе сёння і так пытаць не будзе, бо ў цябе ацэнак ужо шмат. А ў мяне толькі адна двойка.

Не паспела Марынка адказаць, як у клас увайшла настаўніца.

— На сёння трэба была вам напісаць апавяданне на тэму „Чаму я люблю сваю вёску?" Хто не напісаў? — спытала яна.

Усе маўчалі.

— Калі ўсе напісалі, дык сваё апавяданне прачытае нам Крыся Янюк.

Крыся схапіла сшытак Марынкі і пачала чытаць. Марынка пачырванела, але маўчала.

— Вельмі прыгожае апавяданне, — сказала настаўніца. Стаўлю табе пяцёрку. А цяпер няхай прачытае сваё апавяданне Марына Турык.

Марынка ўстала і, гледзячы ў зямлю, сказала:

— Я не напісала.

— Чаму? — спытала настаўніца.

— Не было часу, — адказала дзяўчынка.

— Трэба было адразу прызнацца, калі я пыталася, — сказала настаўніца. — А цяпер стаўлю табе двойку.

На перапынку вучні абступілі Марынку. Усе пыталі, як гэта здарылася, што яна атрымала двойку. Дзяўчынка гаварыла, што не было калі, трэба было памагаць маме.

— Чаму ты хлусіш, Марына? — спытаў Вася, гаспадар класа. — Я бачыў, як Крыся ўзяла твой сшытак і прачытала тваё апавяданне. А ты маўчала. Трэба было сказаць настаўніцы аб гэтым.

— Я не хацела рабіць ёй сораму, — ціха сказала Марынка.

— Ведаеце што, — запрапанаваў Вася, — трэба нам разам узяцца за Крыстыну. Што яна сабе думае? Сама не вучыцца і другім хатнія заданні забірае!

Усе згадзіліся, што трэба штодзённа правяраць, ці Крыся зрабіла хатнія заданні.

Гэтага пільнаваў увесь клас.

У хуткім часе Марынка выправіла сваю двойку на пяцёрку, а Крыстына пачала добра вучыцца.

Аўрора

## МАЛЮНКІ ШКОЛЬНІКАЎ



*Пад уражаннем тэлевізійнай „Дабраночкі" шасцігадовы Андрэй Мэтэнька з Бельска намаляваў вось што і прыслаў у „Зорку".*

## Вершы Віктара Шведа

### МАШЫНА ДЛЯ СЫНА

Матуля ў спешцы раніцой
Вядзе ў прадшколле сына.
Угледзеў ён на маставой
Шыкоўную машыну.

— Такую вось хачу прыдбаць, —
Сказаў надзвычай строга.
— Шмат трэба, сынку,
працаваць,
І грошыкаў мець многа.

— Дык мара збудзецца мая, —
Адказ даў маме Коля. —
Да працы неадкладна я
Пайду пасля прадшколля.

### МАТРОСЫ

На ўроку настаўнік-заолаг
Запытаў гарэзнага Андрушу:
— Назаві такія вось жывёлы,
Што жывуць і ў моры і на
сушы?

Бедны вучань аніяк не можа
Адказаць на нейкія дзівосы.
З дапамогаю прыйшоў Сярожа:
— Гэта будуць слаўныя
матросы.

### БУДЗЬ ПАСЛУХМЯНЫ

Татулька рана
Лае Колю:
— Будзь паслухмяны,
Ты ж не ў школе.

У школе ганяць
Па-другому:
— Будзь паслухмяны,
Ты ж не дома.

### МАКАРКА Ў ЗААПАРКУ

— Што гэта, мама, за звярок? —
Малы Макар пытаецца.
— Дык гэта шэры воўк, сынок.
Табе ён падабаецца?

Макарка грозна паглядзеў
На зяпу-рот ягоную:
— Дык гэта ты бабулю з'еў
І Шапачку чырвоную?!

### ДЗЯКАВАЦЬ ЗМУШАЕ МАМА

Прынясла суседка Верка
Ваню некалькі цукеркаў.
— Дзякую, — азваўся Ваня,
Атрымаўшы дараванне.

— А няма за што, дзяціна, —
Адказала тут жанчына.
— Я дык думаю таксама,
Дзякаваць змушае мама.

### ДРУГІ ЎЖО ЛЫСЫ Ў НАШАЙ ХАЦЕ

Толькі прыбег Адам
з занятказ —
У хаце ўжо яго віталі
Мама з малюсенькім дзіцяткам,
Яны прыехалі з шпіталя.

— Не цешышся, — спытала
мама, —
Што нарадзіўся ў цябе брацік?
Адказ пачула ад Адама:
— Другі ўжо лысы ў нашай
хаце!

### МОЖА МАМА ТРАЎКУ ЕЛА?

Не патрапіць аніяк
Зразумець Агата,
Што матуля корміць так
Грудзьмі яе брата.

Мо ты, мама, за сялом
Ела сёння траўку,
Калі ўласным малаком
Накарміла Слаўку?



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



## РЭЎНАСЦЬ

**(З народнага)**

Сонца ўстала над зямлёй,
Новы дзень пачаўся.
З крамы крочыў Халімон
І чамусь хістаўся.

Увайшоў ён на масток,
Тут прайсці не проста.
Пахіснуўся раз, другі
І зваліўся з моста.

Праз гадзіну ці праз дзве
З лаянкай, з праклёнам
Той жа вуліцай ідзе
Жонка Халімона.

— Дзе ж яго мне напаткаць,
Міласцівы Божа!
Зноў насцёбаўся, відаць,
І дайсці не можа?

Перад ёю той масток,
А ў нізіне — лужа.
Там чыясь ляжыць свіння
З яе верным мужам.

Узяла жанчына кій
І свінню так біла,
Каб чужога мужыка
Болей не любіла.

**Сямён Пацёмкін**



# НІЎКА



Калі б у вас былі добрыя манеры, уступілі б месца маёй жонцы.

(Ле Монд)

## АФАРЫЗМЫ

Такі закон прыроды, што не вяртаюцца маладыя годы.

— ✱ —

Дурны для ўсіх, разумны для сябе.

— ✱ —

Звычай не волас, яго нялёгка вырваць.

— ✱ —

Не той працаўнік, хто працуе раз у год да поту, а той, хто знаходзіць на кожным кроку работу!

— ✱ —

Старасці нельга абысці, да старасці можна не дайсці.

— ✱ —

Пакутваць хворым сумленнем значна горш, чым пакутаваць хворым целам.

— ✱ —

Некаторыя разумеюць так: якая розніца, каму служыць; абы лепш жыць.

— ✱ —

Без дурняў і хітры не пражыве.

**Міхась Літвінчык**

СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## КУРКА-ЧУБАТУРКА

**(Народная)**

*Я служыла ў пана*
*Ды першае лета,*
*Выслужыла ў пана*
*Курачку за гэта.*
*Мая курка-чубатурка*
*Па двару хадзіла.*
*Едзе пан, чудуецца,*
*А што ж гэта за курыца?*
*Курыца мая:*
*Куд-куд, кудак!*

*Я служыла ў пана*
*Ды другое лета,*
*Выслужыла ў пана*
*Качачку за гэта.*
*Мая качка: квачу-квачу.*
*Мая курка-чубатурка*
*Па двару хадзіла.*
*Едзе пан, чудуецца,*
*А што ж гэта за курыца?*
*Курыца мая:*
*Куд-куд, кудак!*

*Я служыла ў пана*
*Ды трэцяе лета,*
*Выслужыла ў пана*
*Гусачку за гэта.*
*Мая гуся: гагі-гагі,*
*Мая качка: квачу-квачу.*
*Мая курка-чубатурка*
*Па двару хадзіла.*
*Едзе пан, чудуецца,*
*А што ж гэта за курыца?*
*Курыца мая:*
*Куд-куд, кудак!*

*Я служыла ў пана*
*Ды чацвёрта лета,*
*Выслужыла ў пана*
*Козачку за гэта.*
*А казіца: стрыкі-брыкі,*
*Мая гуся: гагі-гагі,*
*Мая качка: квачу-квачу.*
*Мая курка-чубатурка*
*Па двару хадзіла.*
*Едзе пан, чудуецца,*
*А што ж гэта за курыца?*
*Курыца мая:*
*Куд-куд, кудак!*

*Я служыла ў пана*
*Ды пятае лета,*
*Выслужыла ў пана*
*Барана за гэта.*
*Мой баран кругарогі,*
*Паламаў ён пану ногі,*
*А казіца: стрыкі-брыкі,*
*Мая гуся: гагі-гагі,*
*Мая качка: квачу-квачу.*
*Мая курка-чубатурка*
*Па двару хадзіла.*
*Едзе пан, чудуецца,*
*А што ж гэта за курыца?*
*Курыца мая:*
*Куд-куд, кудак!*

Умерана, з рухам ♩=100

Я слу- жы- ла ў па- на ды пе- рша- е ле- та,
вы- слу- жы- ла ў па- на ку- ра- чку за гэ- та.
больш рухава
Ма- я ку- рка-чу- ба- ту- рка па два- ру ха- дзі- ла.
узмацняючы гучанне
Е- дзе пан, чу- ду- ец- ца, а што ж гэ- та за ку- ры- ца?
Ку- ры- ца ма- я: Куд - куд, ку- дак!

### ПАДРЫХТАВАЛІСЯ

У ЗАГС прыйшла пара маладых і заявіла, што хочуць узяць шлюб.

— Ці вы дастаткова падрыхтаваліся да гэтак важнага жыццёвага рашэння? — пытаецца ўраднік.

— О, так, — адказвае нарачоны. — Купілі мы ўжо 10 літраў гарэлкі, 30 бутэлек віна і 5 літраў спірту...

### У СВЕЦЕ ЦІКАВЫХ ДУМАК

Калі жанчына хоча панаваць, мусіць прыкідвацца, што робіць тое, чаго хоча муж.

**Анарэ дэ Бальзак (1799—1850), французскі пісьменнік**

## ГУМАР З БАРАДОЮ

Старэнькі селянін, прыехаўшы ў горад, заходзіць у шыкоўны магазін і пытае:

— Ці тут прадаюцца хамуты?

— Не, стары, — адказваюць яму два франты, — тут прадаюцца толькі дурні.

— Бач! — круцячы галавою, дзівіцца стары. — Відаць, і торг ідзе добра, калі толькі два і асталося.

✱

Касілі два касцы: бацька і сын.

— Ой, як мала мы выкасілі, — кажа бацька.

— Э-э-э, каму ж тут было касіць, — кажа сын. — Ты стары, я малады.

Селі яны есці і добратакі ўмалаціілі.

— Ого, — здзівіўся бацька, — як многа мы з'елі.

— А як жа, — заўважыў сын, — хіба не было каму: ты — мужчына, я — мужчына.

✱

Прынесла бабуля суддзю кошык груш. Суддзя бачыць, што гасцінец не вельмі, дый кажа:

— Нашто ты, бабка, прынесла? Твае ж бы дзеткі злласавалі.

— А дзеткі, панок, і так пабудуць. Я ім скажу — свіння з'ела.



**У хаце, у якой пануе нязгода, найхутчэй псуюцца дзверы.**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020